Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 650.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Серада, 1 красавіка 1998 г. № 33 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Асцярожна: міны!

**Двое падлеткаў загінулі ў мінулую нядзелю ў Докшыцкім раёне.**

Трагедыя здарылася непадалёк ад вёскі Замошша. Жыхары вёскі Круляўшчызна 16-гадовы школьнік Сяргей Таляронак і 17-гадовы навучэнец ПТВ Аляксей Дралаў знайшлі на полі артылерыйскі снарад часоў Другой сусветнай вайны. Хлопцы вырашылі выплавіць тол са снарада, кінуўшы яго ў вогнішча. Ад выбуху выратаваўся толькі трэці ўдзельнік гэтага мерапрыемства, які якраз адышоў за галлём.

У Докшыцкім штабе грамадзянскай абароны нам паведамілі, што поле, дзе падлеткі знайшлі снарад, цяпер ахоўваецца міліцыяй. Мясцовасць правяраюць сапёры. Яны ўжо знайшлі на полі каля 40 снарадаў і мін. Адзін артылерыйскі снарад 75 калібру сапёры выявілі каля калгаснай фермы. Пошукі рэшткаў вайны працягваюцца. Дарэчы, гэта ўжо другі няшчасны выпадак на полі. Гадоў пятнаццаць таму тут падарваўся калгасны трактар. Пасля гэтага поле, начыненае небяспечным металам, перасталі засяваць. Аднак у дзяцей гэтае месца былых баёў заўсёды выклікала цікавасць.

Чаму ж раней ніхто не займаўся размініраваннем злашчаснага поля? Кажуць, што няма грошай, каб абследаваць усе 17 гектараў гэтай выбухованебяспечнай тэрыторыі.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Прадстаўніка Хартыі-97 прымалі ў Вашынгтоне на высокім узроўні

**Міжнародны каардынатар Хартыі-97 Андрэй Саннікаў наведаў Злучаныя Штаты, дзе меў сустрэчы з высокапастаўленымі асобамі адміністрацыі ЗША.**

У прыватнасці, ён быў прыняты намеснікам Дзяржаўнага сакратара ЗША Строўбам Тэлботам. Як гаворыцца ў паведамленні прэсслужбы Дзярждэпартамента, Строўб Тэлбот сустрэўся з Андрэем Саннікавым «для таго, каб выказаць падтрымку дэмакратыі і правам чалавека ў Беларусі». Зазначаецца таксама, што сп.Саннікаў падаў у адстаўку з пасады намесніка міністра замежных справаў Беларусі «у знак пратэсту супраць ініцыяванага прэзідэнтам Лукашэнкам рэферэндуму ў лістападзе 1996 г., у выніку якога ў Канстытуцыю краіны былі ўнесеныя незаконныя змены».

Падчас сустрэчы Строўб Тэлбот заявіў аб *«рашучай падтрымцы Злучанымі Штатамі правоў чалавека і дэмакратыі ў Беларусі і дзейнасці Хартыі-97»*. Ён таксама падкрэсліў важнасць намаганняў АБСЕ ў аказанні Беларусі дапамогі ў справе захавання ёю абавязацельстваў у галіне правоў чалавека і дэмакратыі.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## За надпісы на сценах

*Двух студэнтаў выключылі з універсітэта*

Яшчэ супраць двух актывістаў Маладога Фронту ўзбуджаная крымінальная справа за надпісы на сценах. На гэты раз беларускія праваахоўнікі адрэагавалі на «крамолу», якая з'явілася ў Мінску. Студэнтаў Алеся Мухіна і Андрэя Гілевіча чакае суд.

У першую вясеннюю ноч на дамах па вуліцы Арлоўская з'явіліся надпісы «Жыве Беларусь!», «Свабоду палітвязням!», «Беларусь у Еўропу, Лукашэнку ў ...». Адна з патрульных машын, якія тэрмінова сталі шукаць «мастакоў-злачынцаў», прывезла ў аддзяленне Алеся Мухіна, Андрэя Гілевіча ды яшчэ аднаго непаўналетняга хлопца, чыё прозвішча не паведамляецца. Як сцвярджаюць следчыя, на допыце юнакі прызналіся ў аўтарстве надпісаў. Крымінальная справа была ўзбуджаная супраць старэйшых, 18-гадовых Мухіна і Гілевіча. Разам з непаўналетнім сябрам яны былі адпушчаныя пад падпіску аб нявыездзе, але цяпер рэгулярна выклікаюцца да следчых на допыты. Днямі іхняя справа будзе перададзеная ў суд.

Між тым першыя «непрыемнасці» для Алеся Мухіна і Андрэя Гілевіча ўжо наступілі: хлопцаў ужо выключылі з універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі (былы радыётэхнічны інстытут), дзе яны вучыліся на 1-ым курсе факультэта камп'ютэрных сістэмаў. У загадзе, падпісаным рэктарам Віктарам Ільіным тыдзень таму, змешчаная фармулёўка: «за парушэнне нормаў паводзінаў у грамадскіх месцах». Варта адзначыць, што студэнцкі прафкам даў згоду на адлічэнне Алеся Мухіна і Андрэя Гілевіча.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**



*По шляху інтэграцыі...*

*Спорт*

## Разбор палётаў

**Учора адбылося паседжанне выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі.**

Разглядаліся два асноўныя пытанні — аб зменах у Статуце НАКа і аб рабоце федэрацыяў гульнёвых відаў спорту (футбола, баскетбола, валейбола, гандбола, хакея). Занепакоенасць галоўнага спартыўнага органа краіны выклікае вялікі адток беларускіх спартсменаў у клубы блізкага і далёкага замежжа. Амаль 30 нашых футбалістаў гуляюць у вышэйшай расійскай лізе, а некаторыя ў Англіі, Галандыі, Ізраілі, Польшчы, Украіне, Чэхіі. У хакеістаў — геаграфія кантрактаў яшчэ больш шырэйшая: Германія, Данія, Іспанія, Польшча, Славакія, Чэхія, розныя лігі ў Паўночнай Амерыцы, у тым ліку *NHL*.

Падрабязнасці з паседжання НАК у наступным нумары НАВІНАЎ.

**Барыс ТАСМАН**

## Улады – святкуюць, апазіцыя – пратэстуе

**Мінскі гарвыканкам не дазволіў прадстаўнікам апазіцыйных сілаў праводзіць 2 красавіка шэсце і мітынг з нагоды чарговай гадавіны беларуска-расійскага саюза. Улады пагадзіліся толькі на правядзенне фронтаўцамі 5-ці пікетаў.**

Паколькі гадавіну інтэграцыі прэзідэнт Лукашэнка вырашыў святкаваць на дзяржаўным узроўні, то на цэнтральных мінскіх плошчах заўтра будуць праходзіць афіцыйныя мерапрыемствы, дзе ўлады не жадаюць бачыць апазіцыйных дэманстрантаў. Гарвыканкам прапанаваў апазіцыі правесці сваю акцыю 5 красавіка, але такі варыянт не задавальняе кіраўніцтва БНФ, АГП і сацыял-дэмакратаў. І сапраўды, выказваць свой пратэст праз тры дні пасля інтэграцыйнага свята не зусім лагічна. Тым больш, што на мінулым мітынгу ўжо было абвешчана, што наступная акцыя адбудзецца 2 красавіка ў 17 гадзінаў на плошчы Я.Коласа.

Па нашых звестках, кіраўніцтва мінскай міліцыі спрабуе цяпер дамовіцца з лідэрамі Народнага Фронту, каб тыя заклікалі людзей не прыходзіць у чацвер на плошчу Я.Коласа. Аднак як гэта зрабіць тэхнічна за дзень да правядзення акцыі? Хіба што ўлады дадуць апазіцыі прамы тэлеэфір.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Шарэцкі перасяляецца

**Вярхоўны Савет на чале з Сямёнам Шарэцкім шукае новы офіс.**

Дэпутатам давялося пакінуць свой ранейшы штаб, які размяшчаўся ў прэстыжным раёне каля праспекта Машэрава. Яны здымалі тут двухпакаёвую кватэру, за якую плацілі 200 долараў у месяц. Але апошнім часам такая плата аказалася ім не па кішэні, таму вырашылі адшукаць больш сціплыя апартаменты. А пакуль будуць збірацца на сваіх прыватных кватэрах.

Дарэчы, пасля таго, як прэзідэнт выкінуў Вярхоўны Савет з Дома ўрада, апазіцыйныя парламентарыі ўжо трэці раз мяняюць адрас дыслакацыі.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**



## Пупейка стаў палітэмігрантам

**25 сакавіка беларускі бізнесмен Аляксандр Пупейка атрымаў у Польшчы палітычны прытулак.**



Нагадаем, што ў снежні мінулага года бізнесмена затрымалі польскія памежнікі па просьбе беларускага бюро Інтэрпола. Мінская пракуратура накіравала патрабаванне польскаму боку аб выдачы Пупейкі беларускаму правасуддзю. Тым часам А.Пупейка, не чакаючы рашэння варшаўскага суда, звярнуўся да польскіх уладаў з просьбай аб прадастаўленні яму палітычнага прытулку. Паводле польскіх законаў, просьба разглядалася спачатку міністэрствам унутраных справаў. Потым справа была перасланая на зацвярджэнне ў МЗС Польшчы. Атрымаўшы палітычны прытулак, Пупейка чакае цяпер выдачы міжнароднага жэнеўскага пашпарта. З гэтым дакументам ён можа свабодна ездзіць па свету і ніводная краіна, якая падпісала міжнародную Жэнеўскую канвенцыю, не мае права выдаць уцекача, у чым бы яго ні абвінавачвала родная дзяржава.

У сакавіку Пупейка распавёў польскай прэсе аб сапраўдных прычынах патрабаванняў беларускай пракуратуры. На старонках газеты «Жыце» бізнесмен публічна абвінавачаў Лукашэнку ў фінансавых махінацыях і злоўжыванні ўладаю.

Яшчэ раней статус палітычных уцекачоў з Беларусі атрымалі ў Польшчы жонка Пазьняка Галіна Вашчанка з дачкой і журналіст, сябра Маладога Фронту Янка Чурыловіч. Усяго прытулку ў Польшчы просяць некалькі дзесяткаў беларусаў.

**Язэп ГАРЫНСКІ**

## Дэклараванне, аблігацыі і імпарт

**Савет міністраў і Нацыянальны банк у спешным парадку распрацавалі і зацвердзілі сумесную «Праграму неадкладных мераў па стабілізацыі валютнага рынку і абменнага курса беларускага рубля». Некаторыя яе пункты маюць дачыненне не толькі да біржавых курсаў, але непасрэдна закранаюць інтарэсы кожнага беларуса.**

Праграма дае людзям некатора палёгку. Плануецца адмяніць дэклараванне валютных і рублёвых укладаў у банках, а таксама тых грашовых сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для будаўніцтва або куплі жылля. Чакаецца, што хутка з'явіцца адпаведны ўказ прэзідэнта, які ўнясе змены ў парадак дэклaравання.

Дзяржава хоча змагацца з валютным крызісам з дапамогаю грамадзянаў, таму збіраецца выступіць гарантам банкаўскіх укладаў. У красавіку павінен з'явіцца дэкрэт «Аб гарантыі ўкладаў насельніцтва ў камерцыйных банках у замежнай валюце». Людзі апошнім часам неахвотна клалі сваю валюту ў банкі, бо хадзілі чуткі, што валютныя дэпазіты будуць вяртаць рублямі. Цяпер дзяржава абяцае, што будзе абараняць вашыя долары і марачкі.

Да таго ж плануецца забяспечыць на працягу года па ўкладах у беларускіх рублях дадатныя стаўкі — гэта значыць вышэй за ўзровень інфляцыі. Праўда, эксперты ацэньваюць гэтую ідэю крытычна. Пры цяперашніх тэмпах інфляцыі банкаўскі працэнт павінен быць не менш як 80% гадавых, каб грошы не пацярпелі. Але цяпер толькі асобныя банкі даюць 50% гадавых па ўкладах фізічных асобаў, бо падвышэнне працэнтных ставак адбілася б на даходах банкаў.

Яшчэ адзін спосаб выцягнуць грошы з кішэняў людзей і накіраваць іх у эканоміку — выпуск аблігацыяў для фізічных асобаў у беларускіх рублях, які плануецца ажыццявіць у другой палове 1998 г. Аднак пасля займаў савецкага перыяду, якія дзяржава не вярнула людзям, наўрад ці шмат у каго ўзнікне жаданне зноў пазычаць грошы дзяржаве. Хіба што толькі пад вельмі вялікія працэнты.

Праграма прадугледжвае таксама шэраг захадаў па скарачэнні імпарту. Напрыклад, плануецца павялічыць мытныя пошліны з мэтай так званай «абароны нацыянальных інтарэсаў». Вынік будзе адзін — кошты імпартных тавараў вырастуць. А сярод іх не толькі «прадметы раскошы», мэбля і аўтамабілі, але і цыгарэты, харчаванне і г.д. Больш за тое: разам з імпартам, як заўжды адбываецца ў такіх сітуацыях, вырастуць цэны на айчынныя тавары — бо яны не будуць мець канкурэнцыі з боку імпартных.

Асобныя палажэнні выглядаюць як анекдот. Напрыклад, сярод мер, накіраваных на павелічэнне экспарту і змяншэнне імпарту, значыцца і такая: «продаж айчынных тавараў пад маркамі вядомых замежных фірмаў». Як гэта разумець? Няўжо ўрад збіраецца займацца піратствам і прыклейваць на беларускія тэлевізары цэтлік *SONY*?..

**Алесь САДОЎСКІ**

# Ваенны вектар Мінск–Пекін

**Дэпутаты прэзідэнцкага парламента распавялі журналістам пра поспехі свайго васьмідзённага візіту у Кітай.**

Старшыня **«палатачнай» камісіі па нацыянальнай бяспецы Уладзімір Ягораў (былы шэф КДБ) паведаміў, што** ваенныя самалёты Кітая будуць карыстацца паслугамі беларускіх авіярамонтных прадпрыемстваў. Акрамя таго, Беларусь мае намер і далей пастаўляць у КНР прадукцыю мінскага завода колавых цягачоў, якія могуць выкарыстоўвацца ў ваенных мэтах. У прыватнасці, *The Washington Times* пісала, што амерыканскі спадарожнік-шпіён сфатаграфаваў яшчэ ў мінулым годзе шасі беларускага грузавіка МАЗ на тэрыторыі ракетнага завода ў Кітаі, дзе распрацоўваюцца новыя кітайскія ядзерныя ракеты далёкага радыусу дзеяння. Пасля невялікай мадэрнізацыі мінскія колавыя цягачы могуць быць выкарыстаныя для транспарціроўкі кітайскіх стратэгічных ракетаў.

Уладзімір Ягораў заявіў на прэс-канферэнцыі, што Мінск не прадае Пекіну ракетныя тэхналогіі. *«Мы гандлюем лішкамі ваеннай тэхнікі, якая засталася ў спадчыну ад Савецкага Саюза — бронетранспарцёрамі, аўтаматычнай зброяй»*. Па словах былога шэфа КДБ, гэта *«нармальная практыка, якая прынесць пэўны прыбытак у беларускі бюджэт»*. Уладзімір Ягораў распавёў, што плануецца ствараць сумеснае беларуска-кітайскае прадпрыемства па зборцы тых самых колавых цягачоў.

Турнэ лукашэнкаўскіх дэпутатаў можна лічыць плённым. Цяпер Беларусь мае намер павялічыць аб'ём паставак ваеннай тэхнікі і абсталявання двайнога прызначэння ў Кітай.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# У Лондане апазіцыянерам спадабалася

**Як «вельмі паспяховы» ацанілі візіт у Лондан групы беларускіх палітыкаў старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі і яго намеснік Генадзь Карпенка.**

29 сакавіка дэлегацыя беларускіх палітыкаў, у якую ўваходзілі таксама Уладзімір Савічаў, Міхаіл Пастухоў і Юрый Хадыка, вярнулася ў Мінск. Падчас візіту, арганізаванага міністэрствам замежных справаў Вялікабрытаніі, адбыліся сустрэчы з высокапастаўленымі прадстаўнікамі ўрада і парламента. Англійскі бок выказаў глыбокую занепакоенасць працэсамі, што праходзяць у нашай краіне. У Беларусі, на думку брытанскіх палітыкаў, груба парушаюцца правы чалавека, адсутнічаюць рыначныя рэформы, а лістападаўскі рэферэндум 1996 года адназначна ацэньваецца як неканстытуцыйны.

Падчас сустрэчы ў міністэрстве замежных справаў Вялікабрытаніі беларускім палітыкам паведамілі, што незадоўга да іх прыезду ў Лондан адзін з супрацоўнікаў беларускага пасольства ў Вялікабрытаніі наведаў МЗС, дзе спрабаваў пераканаць чыноўнікаў у немэтазгоднасці прыёму дэлегацыі апазіцыйных палітыкаў на высокім узроўні. Аднак сустрэчы адбыліся, і па выніках перамоваў дасягнута дамоўленасць аб пастаянным супрацоўніцтве паміж Вярхоўным Саветам Беларусі і камісіяй па міжнародных справах Палаты абшчын брытанскага парламента, а таксама міністрам па справах Еўропы.

*БелаПАН*

*«Ценявы ўрад» падлічыў...*

# Не рост, а эканамічны спад

**У 1997 годзе ў Беларусі, насуперак афіцыйнай статыстыцы, адбыўся не рост, а падзенне валавога ўнутранага прадукту.**

Пра гэта сведчаць разлікі, падрыхтаваныя Нацыянальным выканаўчым камітэтам (НВК) і абвешчаныя 30 сакавіка на чарговым паседжанні «ценявога ўрада». Як сцвярджаецца ў дакументах НВК, калі пералічыць афіцыйна апублікаваныя статыстычныя дадзеныя аб аб'ёме ВУП у доларах па курсе Нацбанка, то можна заўважыць, што замест абвешчанага росту ВУП на 10% адбылося яго падзенне на 1,9%; вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі скарацілася на 13%, рознічны тавараабарот упаў на 2,7%. Па назіраннях членаў «ценявога ўрада», пусцець паліцы магазінаў, зноў з'яўляюцца забытыя чэргі (асабліва на перыферыі), мясцовымі ўладамі амаль паўсюдна ўведзены абмежаванні ў продажы прадуктаў.

Сярод асноўных прычынаў збяднення насельніцтва члены «ценявога ўрада» называюць «эканамічную некампетэнтнасць прэзідэнта Лукашэнкі і яго ўрада, няграматнае ўмяшанне ў эканоміку, манапалізацыю ўсіх бакоў жыцця грамадства». НВК запатрабаваў ад кіраўніцтва краіны ўстанавіць мінімальную заработную плату ў памеры пражытачнага мінімуму — не ніжэй за 1,5 мільёна рублёў, а тарыфную стаўку 1-га разраду — у памеры мінімальнага спажывецкага бюджэту — не менш за 2,5 мільёна рублёў.

*БелаПАН*

# Здароўя больш не стане

**Сёлета плануецца аздаравіць каля 200 тысячаў дзяцей і падлеткаў з Гомельскай вобласці — гэта на 15% менш, чым летась.**

Для адпачынку дзецям падрыхтаваныя пуцёўкі ў санаторыі і пансіянаты Беларусі, Украіны і Краснадарскага краю Расіі. Акрамя таго, для аздараўлення мяркуецца максімальна выкарыстаць летнія лагеры, размешчаныя на тэрыторыі вобласці. Дарэчы, 80% з іх маюць патрэбу ў капітальным рамонце, але з прычыны недахопу сродкаў дзецям давядзецца летам жыць у часова адрамантаваных памяшканнях.

*БелаПАН*

# «Наварылі» на мяжы?

Міліцыя сумесна з мытнай службай вырашыла праверыць аўтобус, у якім вярталася са службы змена мытнікаў з КПП «Берастаўіца-2», што на мяжы з Польшчай. У салоне была знойдзена «нічыйная» валюта — 2.100 нямецкіх марак, 435 долараў, а таксама дыпламат з пяццю бутэлькамі віна. Праводзіцца праверка.

**С.М.**

# Ксяндзы змагаюцца з гарэлкай

**Гродзенскі біскуп А.Кашкевіч правёў сустрэчы з ксяндзамі ў Лідзе і Гродне.**

Сярод пытанняў, якія абмяркоўваліся святарамі, была праблема ўжывання гарэлкі на пахаваннях. За гады савецкай улады парафіяне паўсюдна перанялі зусім не каталіцкую традыцыю — піць на памінках гарэлку, прычым у неабмежаванай колькасці. Ксяндзы дамовіліся, што будуць пераконваць вернікаў цалкам адмовіцца ад гэтай завядзёнкі.

**Андрэй САВІЧ**

# Белорусский электорат:

**Олег МАНАЕВ, профессор, директор Независимого института социально-экономических и политических исследований**



С недавних пор вопрос о возможности проведения президентских выборов летом 1999 года живо обсуждается в Беларуси. В связи с этим и в президентском окружении, и в кругах оппозиции, и на Западе, и на Востоке все чаще задаются вопросом: какой политический курс обеспечен «электоральными ресурсами» белорусского общества, возможны ли в этой стране перемены?

Отвечая на этот вопрос, прежде всего нужно принять во внимание рейтинг Лукашенко, т.е. количество людей, поддерживающих президента и готовых голосовать за него вновь. Социологические исследования различных государственных и негосударственных служб показывают, что рейтинг президента весьма устойчив. По данным наших опросов, с осени 1994 года он держится на уровне 44%–48%. Например, в ноябре 1994 г. 48,7% опрошенных связывали свои надежды на выход страны из кризиса с президентом, в июне 1995 г. — 45,4%, в июне 1996 г. — 47,0%, в июне 1997 г. 45,4% респондентов были готовы голосовать за Лукашенко на новых президентских выборах, а в декабре 1997 г. — 44,3%. Стабильная поддержка президента — бесспорный социологический факт. Однако говорить на этом основании о всенародной поддержке его политики тоже нельзя.

## Парадоксальный электорат

Давайте повнимательнее посмотрим на белорусский электорат, проанализировав результаты последнего национального опроса, проведенного НИСЭПИ в декабре 1997 г. На этот раз была осуществлена более глубокая, чем полгода назад, дифференциация белорусского электората на сторонников и противников президента. Сторонников Александра Лукашенко оказалось 26%. Тех, кто выбрал других политиков (и не доверяет президенту), оказалось 20,8%.

**Первый вывод очевиден: ни убежденные сторонники, ни убежденные противники Лукашенко не составляют большинства электората.** Сторонников немного больше, но обе группы вполне сопоставимы по размерам.

Чем же отличаются эти группы белорусского общества? Чем обусловлена их убежденность в правоте или, наоборот, в ошибочности политики президента?

Социально-демографические портреты сторонников и противников президента очень различны. Среди первых преобладают женщины (около 60%), пожилые люди (свыше 60% старше 50 лет), с невысоким уровнем образования (свыше 45% до 8–ми классов!), пенсионеры (свыше 45%), жители сел и малых городов (две трети). Во второй группе заметно выделяется молодежь (свыше 45% моложе 30 лет), образованные люди (свыше 45% имеют среднее специальное или высшее образование), занятые в негосударственной экономике и студенты (37,5%), жители столицы, областных центров и крупных городов (две трети).

Сравнительный анализ материального положения сторонников и противников президента обнаружил странный, на первый взгляд, парадокс. Он состоит в том, что никакой разницы между сторонниками и противниками президента по материальному положению нет: в обеих группах бедных и с положением ниже среднего уровня по 58%. Зато разница, причем поразительная, есть в ощущении изменения своего положения. Большая часть сторонников президента считает, что их материальное положение, так же как и экономическая ситуация в стране, за последний год улучшилось или, по крайней мере, не изменилось, тогда как большая часть его противников полагает, что стали жить хуже, а экономическая ситуация все ухудшается!

На мой взгляд, этот парадокс объясняется тем, что материальное положение (впрочем, как и все остальное) люди оценивают «сквозь призму» своих убеждений. Чем глубже страна погружается в прошлое, чем дальше она возвращается во времена СССР, тем комфортнее чувствуют себя одна часть белорусского общества и дискомфортнее другая — независимо от своего материального положения в данный момент.

## Непримиримые антагонисты

Среди убежденных сторонников президента доминируют



*Как показывают социологические опросы, сторонники президента — это убежденные сторонники советского социализма*

избиратели, предпочитающие плановую экономику, государственную собственность, невысокую, но гарантированную зарплату, выступающие против купли-продажи земли и за государственное регулирование цен на все товары и услуги, лишь немногие из них участвуют в негосударственной экономике. Наоборот, две трети убежденных противников президента предпочитают рыночную экономику и высокие, хотя и не гарантированные заработки, три четверти выступают за частную собственность, возможность купли–продажи земли, против неограниченной роли государства в регулировании цен — причем большинство из них отдают преимущество этим экономическим принципам, исходя из собственного опыта, так как активно участвуют в негосударственной экономике.

Еще более разительный контраст между убежденными сторонниками и противниками президента обнаруживается при сравнении их политических ценностей. Большинство убежденных сторонников президента доверяют основным институтам нынешней власти и, наоборот, не доверяют важнейшим социальным институтам, противостоящим президенту (Верховному Совету 13-го созыва, свободным профсоюзам и независимым СМИ). Они считают вполне справедливыми репрессии против оппозиции, опасаются расширения НАТО и вообще предпочитают объединить Беларусь с Россией, а еще лучше — восстановить СССР. Иными словами, сторонники президента — это убежденные сторонники советского социализма. Большинство его противников, наоборот, выражают недоверие всем институтам, поддерживающим нынешнюю власть (за исключением, пожалуй, церкви), осуждают репрессии против оппозиции, выступают за государственную независимость Беларуси и ее интеграцию с Западной Европой, а не возврат в СССР. Эти люди смотрят в будущее, а не в прошлое.

Антирыночные, антидемократические убеждения сторонников президента, и рыночные, демократические убеждения его противников совершенно

*Армения*

# Выборы против прошлого



По предварительным данным Центризбиркома Армении, премьер-министр Армении Роберт Кочарян (на снимке) лидирует в выборах на президентский пост.

Согласно результатам подсчета бюллетеней, поданных в ходе второго тура выборов в 10 областях Армении, кандидатуру Кочаряна поддержало около 61,5% избирателей. В поддержку другого претендента на пост главы государства, бывшего руководителя Компартии Армении Карена Демирчяна проголосовало 38,5%. Центризбирком не располагает достоверными данными о результатах голосования в Ереване, где проживает около трети избирателей Армении, однако есть основания полагать, что столичная публика тем более выскажется против коммуниста.

*Интерфакс*

*Украина*

# С кем будут независимые?

*Более четверти мест в украинском парламенте получили политики, которые не выступали от имени какой-либо партии*

По сообщению председателя Центризбиркома Михаила Рябеца, всего на Украине 225 округов, и в 114 победили беспартийные кандидаты. Коммунисты пока на втором месте — у них 37 мест.

Кроме того, по предварительным данным, в парламент избраны 13 представителей Народно-демократической партии («партии власти»), 10 членов проправительственной Аграрной партии, 8 представителей Народного Руха и 6 — Громады. Мандаты получат также 5 выдвиженцев Соцпартии и 4 — Конгресса украинских националистов.

По мнению многих наблюдателей — как украинских, так и международных, — данный расклад свидетельствует о невысокой степени доверия к политике нынешнего правительства и о желании значительной части избирателей видеть у власти скорее компетентных профессионалов, чем твердых политиков. В частности, правительство имеет перед гражданами долги по зарплате, которые оцениваются в 2,5 миллиарда долларов, а также недовыплатило сотни миллионов долларов пенсий.

Специальные наблюдатели ОБСЕ обнародовали заявление, в котором отмечается, что *«в целом выборы прошли с соблюдением законной процедуры, однако имели место отдельные случаи нарушения правопорядка»*. Можно сделать вывод, что Европа новый украинский парламент признает.

*Reuters — AP*

*Молдова*

# Демократы продолжат борьбу

**Председатель Партии демократических сил Валерий Матей убежден, что в новом парламенте Молдовы удастся сформировать демократическую коалицию против коммунистов.**

На парламентских выборах 22 марта молдавские коммунисты одержали победу, однако им не хватает мандатов, чтобы самостоятельно сформировать правительство и руководящие органы парламента. У Партии коммунистов — 40 депутатских мест из 101, у Демократической конвенции экс-президента Мирчи Снегура — 26, у пропрезидентского блока «За демократическую и процветающую Молдову» — 24, у право-центристской Партии демократических сил — 11 мандатов. Остальные партии не преодолели четырехпроцентный барьер.

Прошедшие в парламент три политические партии в настоящее время ведут переговоры относительно создания антикоммунистической коалиции. В.Матей отметил, что *«есть предпосылки утверждать, что такая коалиция состоится вопреки всем препятствиям»*.

*Интерфакс*

# Евро благословили

**В состав Европейского экономического и валютного союза (ЭВС) должны войти 11 стран Евросоюза.**




Таково мнение авторов докладов Еврокомиссии и франкфуртского Европейского валютного института (который в дальнейшем будет преобразован в Центральный банк ЕС), опубликованных на прошлой неделе. Эти рекомендации станут основополагающими для ожидаемой 1-2 мая в Брюсселе встречи глав европейских государств и министров финансов, где будут решены основные вопросы, касающиеся устройства будущего союза, — будет определен круг участников и назван глава Европейского центрального банка. Скорее всего, в валютный союз войдут Австрия, Бельгия, Финляндия, Франция, Германия, Ирландия, Италия, Люксембург, Нидерланды, Португалия и Испания. Тем временем Великобритания, Дания и Швеция пока отказались принимать участие в союзе, а Греция не смогла выполнить Маастрихтские решения.

В качестве прелюдии майского саммита 21-22 марта в Йорке (Великобритания) состоялась встреча министров финансов государств ЕС, ключевым моментом которой стало выступление германского министра Тео Вайгеля, сформулировавшего основные условия для успешного существования ЭВС. Правительства членов ЭВС обязаны придерживаться бюджета, представленного на рассмотрение другим членам союза, и принимать все меры для погашения внешних долгов.

Последнее положение касается в основном Италии и Бельгии, чей долг на сегодняшний день превышает установленную Маастрихтскими соглашениями норму в 60% ВВП почти в два раза. Так, долг Италии составляет примерно 121,6% ВВП (около 28% общего долга ЕС). По прогнозам экспертов Европейского валютного института, Италии будут предложены льготные условия для вступления в валютный союз (принимая во внимание ту значительную роль, которую она сыграла в основании ЕС).

**Елена ЩЕРБИНИНА**

# за и против президента

очевидны. По своим убеждениям эти группы белорусского электората не просто контрастны, они почти зеркальны.

Самый важный вывод из приведенных данных, которые подтверждают и углубляют результаты предыдущих национальных опросов НИСЭПИ, заключается в том, что **представление о единодушии и стабильности белорусского общества является чистейшим и весьма опасным мифом. Белорусское общество не просто «не единодушно», оно расколото, и расколото очень глубоко**. Сложившееся еще в перестроечные времена представление о пресловутой «памяркоўнасці і талерантнасці» белорусов сегодня столь же адекватно реальному положению, как и «добрососедские отношения» между жителями Грузии и Абхазии, Молдовы и Приднестровья. Разница, конечно, есть, но не столько в форме проявления этих противоречий (социальное напряжение еще не переросло в открытый конфликт, тем более с применением вооруженной силы), сколько в их содержании. Раскол белорусского общества, чреватый серьезными конфликтами, имеет не столько национальную или религиозную, сколько социальную и идеологическую основу. Часть общества искренне тоскует о «старых добрых временах» развитого социализма — таких примерно 25%-30% населения. Другая часть наоборот стремится жить по принципам рыночной экономики и демократии — таких уже не менее 20%. Эти группы — непримиримые антагонисты, убежденные в своей правоте и готовые активно отстаивать свои убеждения.

Полагаю, что раскол белорусского общества был спровоцирован не Александром Лукашенко, а крахом социалистической системы и распадом советской империи: к 1991 году в нашем обществе не сформировалась почва, на которой идеи государственной независимости, рыночной экономики, политической демократии и прав человека получили бы поддержку большинства. Другое дело, что социальная и идеологическая поляризация первых трех лет независимости могла бы быть смягчена, «смятение умов» могло бы приобрести вполне нормальные, цивилизованные формы общественного «разномыслия», которое обычно не тормозит, а наоборот стимулирует развитие общества. Но нынешняя политика президента Лукашенко, активно, целеустремленно и планомерно восстанавливающая прежние формы общественной жизни, начисто игнорирующая и подавляющая интересы тех, кто уже не приемлет этих форм — такая политика не смягчает, не нейтрализует объективную поляризацию, а обостряет ее до крайности, доводит общество до раскола.

## «Электоральные ресурсы» белорусской демократии

Другой, не менее важный, но, пожалуй, более оптимистический вывод нашего исследования состоит в том, что «электоральные ресурсы» для смены политического курса в Беларуси есть: **по меньшей мере пятая часть электората готова к проведению подлинных реформ**, причем это самая активная и образованная часть общества. Просвещать и убеждать этих людей в преимуществах государственной независимости и демократии, вероятно, не стоит — они уже убеждены в этом. Точно также вряд ли можно изменить и убеждения их антагонистов — последовательных сторонников президента, большинство из них также убеждены в своей правоте.

Самую серьезную проблему

*По меньшей мере пятая часть белорусского электората готова к проведению подлинных реформ*

представляет та часть белорусского электората, чей социальный и идейный выбор еще не сложился: в умах этих людей настоящая каша самых разнообразных, порой взаимоисключающих ожиданий, страхов и надежд, а их поведение часто кажется необъяснимым и непредсказуемым. Эта колеблющаяся группа, составляющая половину всего населения, меняет свое отношение и поведение в зависимости от конкретной ситуации. Поскольку же «ситуации», как правило, задаются государством — через массовую пропаганду, организацию выборов, социально-экономическую политику и пр. — то чаще всего это колеблющееся большинство следует за убежденными сторонниками СССР, а не западной демократии. Но именно потому с этой группой можно и нужно работать. По многим важным вопросам она обнаруживает вполне демократические и рыночные ориентации: предпочитает рыночную экономику с государственным регулированием, сочувствует оппозиции, также не доверяет многим государственным институтам, поддерживает идею независимости страны, а ее антизападные настроения, часто эксплуатируемые президентом, явно преувеличены.

Однако наличие «электоральных ресурсов» — факт социологический. Для того, чтобы он стал фактом политическим, необходимо, чтобы убежденные сторонники государственной независимости, рыночной экономики и демократии (те самые 20% населения) были так же адекватно представлены на белорусской общественной сцене, как убежденные сторонники развитого социализма представлены президентом Лукашенко и его командой. Но, к сожалению, такого представительства наиболее образованная и активная часть белорусского общества пока не имеет.

Контрастность сторонников и противников президента проявляется не во всем. Так, если его сторонники дружно демонстрируют высокое доверие ко всем нынешним государственным институтам и недоверие к новым структурам, то отношение противников президента к этим институциям «зеркально» лишь наполовину. Они почти полностью отвергают нынешние государственные институты, но не высказывают, казалось бы, логичной поддержки новым структурам (за исключением независимых СМИ). Особенно поражает, что среди убежденных противников президента почти втрое больше, чем среди его сторонников, тех, кто выразил недоверие Верховному Совету 13-го созыва — «последнему оплоту белорусской демократии»: 54% против 19,5%! Если бы в ближайшее время состоялись выборы, нынешние демократические партии вряд ли могут рассчитывать на успех даже у последовательных противников президента: по данным нашего декабрьского опроса, за кандидатов БНФ стали бы голосовать лишь 13,5%, а за ОГП — 6,1%. Такой же результат ожидает и их лидеров: на президентских выборах за Пазьняка стали бы голосовать только 7,4% противников Лукашенко, за Карпенко — 5,1%, за Гончара и Шушкевича — по 4,2% (остальные лидеры набирают еще меньше).

Очевидна необходимость разработки альтернативной программы, приоритетами которой были бы прежде всего социально-экономические изменения, т.е. то, что затрагивает интересы большинства граждан. Даже убежденные противники президента, как видно из результатов опросов, еще не совсем освоили ценности рыночной экономики. Поэтому экономическое образование населения, пропаганда рыночных ценностей должны быть не менее важным приоритетом оппозиции, чем возрождение национальной культуры и языка. К сожалению, до сих пор некоторые лидеры саму постановку такой задачи расценивают как предательство национальных интересов Беларуси, как измену демократии.

Можно было бы назвать и другие причины отсутствия политического представительства той части белорусского электората, которая не приемлет нынешний курс и вполне готова к реформам. Важнее еще раз подчеркнуть: смена нынешнего курса невозможна без выражения интересов и чувств людей, стремящихся не в прошлое, в СССР, а в будущее, в Европу. Политическая презентация их интересов особенно важна и потому, что колеблющееся большинство в таком случае поддержало бы не тех, кто гарантирует стабильность на сегодня, а тех, кто гарантирует стабильность на перспективу: ведь это большинство состоит из экономически активного населения и больше озабочено не воспоминаниями молодости, а будущим своих детей. Вопрос в том, кто сможет воспользоваться «электоральным ресурсом» демократического развития страны? Сегодня шанс есть и у президента, и у оппозиции: кто кого опередит?

## Зубы з магілы

**Будучыя дантысты, як правіла, выпрацоўваюць свае навыкі на пластыкавых муляжах. Аднак у Францыі некаторым студэнтам прапануюць матэрыял, больш блізкі да натуральнага.**

Скандальны артыкул аб гэтым быў надрукаваны ў часопісе *Science et Avenir* («Навука і будучыня»). Журналістам стала вядома, што ў Парыжскага медыцынскага ўніверсітэта існуе спецыфічная дамоўленасць з супрацоўнікамі шэрагу могілкаў. Спецыяльна для вучэбных мэтаў за невялікую плату магільшчыкі раскопваюць недагледжаныя магілы і аддаюць медыкам сківіцы памерлых. На гэтым матэрыяле і «праходзяць практыку» будучыя стаматолагі. Пасля публікацыі ў часопісе ўлады Парыжа выказалі намер расследаваць апублікаваныя факты і пакараць вінаватых у парушэнні лекарскай этыкі.

## У школе біць не будуць

**У Брытаніі нарэшце адменены цялесныя пакаранні ва ўсіх школах, уключаючы і прыватныя.**

Як паведамляе агенцтва *Reuter*, цялесныя пакаранні вучняў у дзяржаўных школах Брытаніі былі забароненыя яшчэ ў 1986 годзе. А сёлета брытанскі парламент вырашыў, што гэта датычыць абсалютна ўсіх школаў краіны, у тым ліку прывілеяваных прыватных, якіх цяпер у Вялікабрытаніі каля 200.

## Мудры кітаец ведае сапраўднае імя

**Калі ў вас нешта не ладзіцца ў сям'і, не атрымліваецца кар'ера, пастаянна ўзнікаюць праблемы са здароўем, — значыць вам лепш за ўсё змяніць імя.**

Такую параду дае агенцтва *France Press*, расказваючы жыццёвую гісторыю 65-гадовага кітайца, які сцвярджае, што ён прамы нашчадак маньчжурскага імператара. Каля кабінета Дзян Таочуня на адной з вуліцаў старога Пекіна пастаянна стаіць доўгая чарга. Паслугі «лекара» каштуюць няшмат — 8 доляраў з прыватнай асобы, 24 долары — з фірмаў і камерцыйных прадпрыемстваў. У дзень прыходзіць у сярэднім 30—40 кліентаў, а вядзе свой бізнес імператарскі нашчадак вось ужо на працягу 6 гадоў.

Сутнасць ягоных паслугаў заключаецца ў тым, што ён з улікам даты, часу і месца нараджэння (або рэгістрацыі прадпрыемства) падбірае новае імя, назву, гандлёвую марку. Пры гэтым, сцвярджае Дзян Таочунь, неабавязкова мяняць дакументы, расказваць пра змену імені сваім родзічам, сябрам, а тым больш падатковым органам. Каб прыцягнуць да сябе ўдачу — дастаткова выгравіраваць новае імя на пярсцёнку або гадзінніку і насіць з сабою пастаянна.

Цікава, што ў самога Дзян Таочуня не ўдалося даведацца — гэта ягонае першае імя або новае, папраўленае.

## Трохі менш за паўтара мільёна доляраў

**Каб выгадаваць дзіця — ад калыскі да паўналецця, 21 года — сярэднестатыстычная амерыканская сям'я выдаткоўвае 1 мільён 455 тысячаў доляраў.**

Такую суму ў выніку падрабязных разлікаў атрымалі журналісты *US News and World Report*. Пры гэтым былі ўлічаныя выдаткі на адукацыю, жыллё, медыцынскае абслугоўванне, харчаванне, адзенне, цацкі. Гэтая сума ўключае таксама і «страчаныя грошы» — тое, што маглі б зарабіць бацькі, калі б працавалі ўвесь той час, што аддалі свайму дзіцяці. Колькасць «страчаных грошай» журналісты ацанілі амаль у мільён доляраў на кожнае дзіця. А з рэальных выдаткаў даражэй за ўсё амерыканцам каштуе адукацыя — у сярэднім 158 тысячаў доляраў. 55 тысячаў «з'ядае» амерыканскае дзіця з сярэднім апетытам. За цацкі і забавы бацькі ў сярэднім аддаюць 34 тысячы доляраў. Зразумела, багатыя амерыканцы грошай на дзетак не шкадуюць і могуць перавысіць прыведзеныя лічбы ў дзесяткі і сотні разоў.

## Туберкулёз ідзе ў наступ

**Сусветная арганізацыя аховы здароўя вельмі заклапочаная ростам колькасці хворых на туберкулёз. Пры гэтым эксперты адзначаюць, што ў некаторых краінах да гэтай праблемы ставяцца зусім абыякава.**

У многіх краінах свету вакцынацыя супраць туберкулёзу з'яўляецца абавязковай. Аднак паводле дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якія прыводзяцца ў газеце *Daily Telegraph*, у шэрагу рэгіёнаў прафілактычная работа не праводзіцца, вядзе да імклівага распаўсюджання небяспечнай хваробы. Галоўнымі крыніцамі небяспекі з'яўляюцца Афганістан, Бразілія, Эфіопія, Індыя, Інданезія, Іран, Мексіка, Бірма, Нігерыя, Пакістан, Філіпіны, Расія, Паўднёвая Афрыка, Судан і Тайланд. Толькі за 1997 год ад туберкулёзу памерла больш за два з паловай мільёны (!) жыхароў планеты. Кожны год колькасць носьбітаў туберкулёзнай палачкі павялічваецца на сем-восем мільёнаў чалавек.

## «Голы» мітынг

**Незвычайную акцыю пратэсту правялі ў сталіцы Новай Каледоніі нелегальныя кітайскія эмігранты.**

У Новую Каледонію, заакіянскую тэрыторыю Францыі, кітайцы нелегальна накіроўваюцца морам на маленькіх караблях. Як паведамляе амерыканская газета *Christian Science Monitor*, каля пяцідзесяці кітайцаў, якім пагражае высылка на радзіму, правялі мітынг пратэсту на даху мясцовага аэрапорта — распрануўшыся дагала і завязаўшы вочы чорнымі хусткамі. Тым не менш улады Новай Каледоніі маюць намер адпраўляць усіх перабежчыкаў назад: французскага чыноўніка голым целам не здзівіш.

## Шпіёны мяняюць профіль

**Радыкальныя змены адбываюцца ў паўднёвакарэйскай разведцы, якая цяпер атрымае сціплую назву «Агенцтва нацыянальнай інфармацыі».**

Пра жорсткія меры, якія прымае ў дачыненні да разведслужбаў прэзідэнт Паўднёвай Карэі Кім Дэ Чжун, піша газета *Daily Telegraph*. Рэарганізацыя «шпіёнскага ведамства» пачалася пасля расследавання па гучнай справе былога шэфа разведкі Квон Янг-Хэ, які падчас перадвыбарчай кампаніі заявіў, быццам бы Кім Дэ Чжун — сённяшні прэзідэнт — «шпіён Паўночнай Карэі». Увогуле, разведку даўно абвінавачваюць у карупцыі, парушэнні правоў чалавека і змовах, прычым усе злоўжыванні гэтага органа раней апраўдваліся «пагрозай з Поўначы». Цяпер паўднёвакарэйская разведка будзе максімальна апалітычнай, сканцэнтраванай «на зборы замежнай эканамічнай інфармацыі».

## У Швейцарыі грошы не схаваеш

**З 1 красавіка ў Швейцарыі ўступае ў сілу закон супраць «брудных» грошай.**

Швейцарскія банкі часта абвінавачваюць у тым, што яны хаваюць грошы дыктатараў, мафіі і падобнай публікі — хоць, пераважна, гэтыя чуткі заснаваныя на строгім правіле швейцарцаў захоўваць банкаўскую тайну. Цяпер у гэтай краіне з'явіўся закон, які не дапусціць «брудныя» грошы ў швейцарскія банкі. Падобныя законы ўжо прынятыя краінамі-членамі ЕС.

Цяпер усе швейцарскія банкі, страхавыя кампаніі, адвакаты і нават фірмы, што займаюцца абменам валюты, павінны паведамляць уладам пра ўсіх падазроных кліентаў, а таксама тэрмінова блакіраваць адпаведныя рахункі. Раней заканадаўства Швейцарыі толькі прадугледжвала магчымасць інфармавання банкамі ўладаў пра адпаведныя здарэнні.

*Падрыхтавала* **Алена СУРКО**



## Здравствуй, племя молодое, незнакомое!

**В Бразилии обнаружено племя, еще не имевшее контактов с современной цивилизацией.**

Обитает оно на самой границе с Перу, в тропических джунглях. Считалось, что даже там не осталось белых пятен для науки, — но вот это племя никогда не видело белых людей. Насчитывает оно 180 человек, относящихся к народности малокас. Племя отличается крайней воинственностью: сначала пускают в незнакомца стрелу, а потом спрашивают — с чем пришел?..

На снимке — ученый Сидней Поссуэло (сидит слева) все же сумел подружиться с открытыми им индейцами.

**B&B**



## Половина киллеров сдохла по дороге в артисты

*Уникальный эксперимент по дрессировке дельфинов для военных целей закрыт навсегда*

На советской военно-морской базе под Севастополем в 1966 году развернулось бурное строительство. Вскоре выяснилось, что стройбат возвел несколько огромных бассейнов. А значительный участок морской акватории был обнесен сеткой.

Уже в наше время стало известно, что с 1967 года на этой базе была запущена программа по специальной военной дрессировке дельфинов и других морских млекопитающих. К началу 90-х годов в бассейне и акватории базы содержалось около ста дельфинов, тридцать четыре морских льва и семь китов-белух. В оперативно-тактические задачи животных входило уничтожение водолазов вероятного противника. Причем сами дрессированные млекопитающие отнюдь не были обречены на гибель: устранять вражеских подводников они должны были с помощью специального ружья-намордника. Впрочем, готовили дельфинов и китов и к роли живых торпед.

Справедливости ради скажем, что использовать дельфинов в военных целях придумали не советские военные — они всего лишь не хотели отставать от первопроходцев-американцев. Как известно, американские дрессировщики успешно использовали морских млекопитающих для защиты баз ВМС США во время войны во Вьетнаме. По данным американцев, животные предотвратили более шестидесяти нападений вьетнамских водолазов, а также несли службу, которую можно было бы с известной натяжкой назвать патрульной.

После распада СССР советские военно-морские животные, как и Черноморский флот в целом, были поделены между Россией и Украиной. Впрочем, поскольку военный дельфинарий под Севастополем всего один, деление было довольно условным. Украинские и российские дельфины продолжали мирно сосуществовать.

Но средств на продолжение военного образования водных млекопитающих ни у Украины, ни у России не нашлось. Поэтому на свет появилось совместное решение Академии наук России и Государственного океанариума Украины — и дельфинов-киллеров начали продавать на Запад для использования в различных шоу.

В 1990-1997 годах при непосредственном участии бывших командиров программ военной дрессировки россиянина Льва Мухаметова и украинца Валерия Кулагина было продано 43 дельфина (киты и морские львы пользуются почему-то меньшим спросом). Среди проданных было примерно поровну «украинцев» и «россиян». А география спроса на них очень широка: Аргентина, Чили, Мальта, Кипр, Венгрия, Израиль и Турция. Правда, из-за отвратительных условий и неквалифицированного обращения около половины проданных животных сдохло или в пути, или вскоре после прибытия к покупателям. Западные общества охраны животных, которые и без того точили зуб на военное животноводство, тут просто взорвались, но нисколько не повлияли на ситуацию. Сколько стоит один дрессированный дельфин, ни российские, ни украинские военные ученые не говорят, но известно, что за каждого можно выручить по нескольку десятков тысяч долларов.



*Чтобы научить двух дельфинов синхронно прыгать по команде человека, — нужно очень много труда и времени.*

В нынешнем году коммерческий интерес западных покупателей к «безработным» дрессированным млекопитающим даже вырос. В результате специальная программа по защите черноморских дельфинов, к реализации которой украинское министерство охраны окружающей среды приступило еще в 1993 году, оказалась сорванной. Поначалу Киев даже собирался выпустить отловленных ранее дельфинов обратно в море.

Однако коммерческая выгодность воспитания морских млекопитающих так впечатлила руководство Украины, что была разработана государственная программа размещения всех дельфинов (как «ветеранов», так и только что отловленных) в заново отстроенных и отремонтированных питомниках. Причем ремонт и строительство проводились на средства Европейского союза, выделенные на конверсионные программы. (Начались даже работы по расширению старого дельфинария, который военные в советские времена не использовали.) Впрочем, недавно стало известно, что проект заморожен: уж очень против него выступают природоохранные организации. Украине же, стремящейся к интеграции в общеевропейские структуры, ни к чему портить имидж.

**Родион ВОДИН**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1171 Нумар падпісаны ў друк 31.03.98 (15:00) Наклад — 19.650